# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№10 (245)

кастрычнік 2022

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"


**У НУМАРЫ:**

## Алена Ціхановіч: Беларусы могуць больш актыўна ўдзельнічаць у грамадскім жыцці Чэхіі

22 кастрычніка, у Празе прайшоў Першы з'езд беларусаў Чэхіі. Ён адбыўся пад патранатам мэра чэшскай сталіцы ў памяшканні пражскага магістрату. У Чэхіі навучаецца шмат беларускіх студэнтаў, а з 2020 года краіна прыняла мноства ўцекачоў, у тым ліку па праграме Medevac, якая займаецца медычнай эвакуацыяй параненых з краін, дзе адбываюцца войны, канфлікты і прыродныя катастрофы. Апошняя вайна ўсё змяніла, найперш – стаўленне да беларусаў у гэтай краіне. Як выправіць сітуацыю? Як наладзіць камунікацыю паміж старой і новай эміграцыяй? Як захаваць нацыянальную ідэнтычнасць?.

Старонка 2




# НОЧ РАССТРАЛЯНЫХ ПАЭТАЎ

Як беларусы ўшаноўвалі памяць беларускіх літаратараў, якія былі расстраляныя НКУС у ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года. Працяг на старонцы 4.

## У БЕЛАСТОКУ ЗБІРАЮЦЬ ПОДПІСЫ ЗА ДАЗВОЛ ДЗЕЦЯМ ВЫВУЧАЦЬ БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

Усяго 25 чалавек паставілі свае подпісы з жаданнем змяніць сітуацыю з навучаннем беларускай мовы на Беласточчыне, паведаміла ў сваім фэйсбуку прадстаўніца Аб'яднаннага пераходнага кабінета па нацыянальным адраджэнні Аліна Коўшык.

"Гэтая лічба сімвал роспачы, шматгадовай русіфікацыі і занядбання мовы", – так яна ахарактарызавала сітуацыю.

Польскае заканадаўства не надзяляе правам вучыць дзяцей на мове нацыянальных меншасцяў асобаў з дазволам на жыхарства і тых, хто атрымаў прытулак – толькі грамадзянаў.

Збіраць подпісы за дазвол вывучаць беларускую мову дзецям, бацькі якіх не маюць польскага грамадзянства, пачалі 3 кастрычніка.

Анкету можна запоўніць у офісе арганізацыі "MediaPortBelarus" (Беласток, Сянкевіча, 44).



**НЕ ВАЙНЕ!**



**ВЫ МОЖАЦЕ ДАПАМАГЧЫ**

Чэхія

# Алена Ціхановіч: БЕЛАРУСЫ МОГУЦЬ БОЛЬШ АКТЫЎНА ЎДЗЕЛЬНІЧАЦЬ У ГРАМАДСКІМ ЖЫЦЦІ ЧЭХІІ

22 кастрычніка, у Празе прайшоў Першы з'езд беларусаў Чэхіі. Ён адбыўся пад патранатам мэра чэшскай сталіцы ў памяшканні пражскага магістрату.

Беларуская дыяспара ў Чэхіі мае вельмі даўнія традыцыі, што фіксуюцца яшчэ з часоў Скарыны і ўмацаваны кіраўнікамі Беларускай Народнай Рэспублікі ў 20-х гадах ХХ стагоддзя, якія атрымалі тут прытулак. У Чэхіі навучаецца шмат беларускіх студэнтаў, а з 2020 года краіна прыняла мноства ўцекачоў, у тым ліку па праграме Medevac, якая займаецца медычнай эвакуацыяй параненых з краін, дзе адбываюцца войны, канфлікты і прыродныя катастрофы. Апошняя вайна ўсё змяніла, найперш – стаўленне да беларусаў у гэтай краіне. Як выправіць сітуацыю? Як наладзіць камунікацыю паміж старой і новай эміграцыяй? Як захаваць нацыянальную ідэнтычнасць? Пра ўсе гэтыя пытанні мы паразмаўлялі з прадстаўніцай беларускай нацыянальнай меншасці ва Урадавай Радзе ў справах нацменшасцей Аленай Ціхановіч.

**– Ці гэты з'езд беларусаў Чэхіі сапраўды з'яўляецца першым? Бо гісторыя тутэйшай эміграцыі вельмі даўняя…**

– Чэшскія беларусы падобныя сходы "за бацькаўшчыну" праводзілі і сто гадоў таму. Аднак яны не называліся з'ездамі. Так што наш з'езд сапраўды першы.

**– У чым была патрэба яго правядзення?**


Алена Ціхановіч

– Сышлося некалькі фактараў. Першы з іх – нас стала больш. Пры перапісе насельніцтва ў Чэхіі 2021 года (ён праводзіцца раз на 10 гадоў) 5129 чалавек назваліся беларусамі. У параўнанні з 2011 годам, дзе беларусамі назвалі сябе 2013 чалавек, бачым значны прырост.

А паводле даных Міністэрства ўнутраных спраў, беларусаў тут больш за 8 тысяч. Пасля падзей 2020 года прыехала так шмат людзей, што з'явілася неабходнасць навязваць лучнасць паміж старой і новай дыяспарамі, бо тыя, што эмігравалі нядаўна, маюць патрэбу ў інфармацыі і падтрымцы.

Таму на з'ездзе мы зрабілі такі "парад арганізацый" – прэзентавалі ўсе ініцыятывы і аб'яднанні, якія тут дзейнічаюць.

Другі фактар: пасля пачатку вайны ва Украіне змянілася стаўленне да беларусаў у Чэхіі. Раней мы адчувалі салідарную падтрымку і ад ураду, і ад грамадства. На афіцыйных будынках, у вокнах дамоў вывешваліся беларускія сцягі. Падчас вайны ўсе сцягі змяніліся на ўкраінскія, таксама былі прынятыя законы, якія тут называюць Lex Ukrajina. Паводле іх, у адносінах да грамадзян Расійскай Федэрацыі ўводзіліся візавыя санкцыі і іншыя абмежаванні, а пасля дадалася і Беларусь, якая была абвешчана суагрэсарам. Абмежаванні закранулі не толькі турыстычныя ці працоўныя візы для беларусаў, якія цяпер не могуць прыехаць у Чэхію, але і студэнтаў. Прычым як тых, што тут вучацца на так званых "крытычных" спецыяльнасцях, так і тых, што толькі паступілі і яшчэ не прыехалі з Беларусі. Пакуль што ўдалося дамагчыся невялікіх выключэнняў для выпадкаў уз'яднання сем'яў ці пераследаваных асобаў. Таксама студэнты змогуць трапіць у Чэхію пры ўмове, што будуць мець міжнародную або чэшскую стыпендыі.

**– Што вы абмяркоўвалі на з'ездзе і якія галоўныя вынікі?**

– Мы прынялі палітычную рэзалюцыю па Украіне, у якой выказалі з ёй салідарнасць і дэкларавалі падтрымку ўкраінскім уцекачам і беларускім добраахвотнікам, якія ваююць на баку Украіны. У гэтым жа звароце ўтрымліваецца прапанова да чэшскага парламента з просьбай прызнаць Беларусь акупаванай краінай, а Расію – тэрарыстычнай дзяржавай.

Што датычыць жыцця беларускай дыяспары, то мы гаварылі найперш пра тое, як беларусы могуць больш актыўна ўдзельнічаць у грамадскім жыцці Чэхіі. І ў палітычным таксама. Напрыклад, Андрэй Рамашэўскі, які ўваходзіць у Раду Пардубіцкага краю, падзяліўся сваім досведам удзелу ў выбарах і ў партыйным жыцці.

Напрыклад, Іна Васілеўская ў сваім выступе расказала, як дамаглася, каб чэшскі парламент пачаў пераглядаць Закон пра замежнікаў. Яна змагаец-

# ЗВАРОТ ЗГУРТАВАННЯ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА" ДА ЎДЗЕЛЬНІКАЎ ПЕРШАГА З'ЕЗДУ БЕЛАРУСАЎ ЧЭХІІ

Шаноўныя ўдзельнікі Першага З'езда беларусаў Чэхіі!

Сардэчна вітаем вас ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"!

Гістарычна склалася так, што бытаванне беларускай грамады на чэшскай зямлі – з'ява цалкам натуральная. Сюды па навуку ездзілі студэнты ВКЛ яшчэ ў сярэднявеччы, а сто гадоў таму гэтая зямля была цэнтрам беларускага эмігранцкага руху. Менавіта ў Празе знайшлі прытулак урад і прэзідыюм БНР. Урэшце, кожны беларус з маленства ведае, што першая друкаваная нашай мовай кніга пабачыла свет менавіта тут.

Чэшская супольнасць беларусаў сёння знаходзіцца ў плыні найважнейшых для Беларусі палітычных і культурніцкіх працэсаў. Акцыі пратэсту, дапамога беларускім зняволеным, звароты да еўрапейскіх палітыкаў, праца па беларускіх пытаннях з еўрапейскімі чыноўнікамі... І асабліва адзначаем унікальную, узорную праграму дапамогі беларускім медыкам і лекавання дзясяткаў моцна параненых і скалечаных падчас мірных пратэстаў грамадзянаў Беларусі Medevac, якая выявіла такія падрабязнасці пра акалічнасці супрацьстаяння беларусаў з рэжымам, што выклікала сапраўдны шок у дэмакратычных грамадствах. І гэта толькі невялікая частка здзейсненага.

Гісторыя нас вучыць, што ніводны буйны нацыянальны здабытак не абыходзіўся без удзелу чэшскіх беларусаў, і таму вашае рашэнне зладзіць Першы З'езд беларусаў Чэхіі бачыцца нам надзвычай важным і актуальным крокам на шляху беларусаў усяго свету да здабыцця незалежнай дэмакратычнай Беларусі.

Справы на Бацькаўшчыне сёння вельмі трывожныя. Перад беларусамі паўстала пытанне пра ўдзел нашай краіны ў вайне, рэалістычным падаецца сцэнар знікнення краіны Беларусь з палітычнай мапы свету як суверэннай дзяржавы. Маштаб палітычных рэпрэсіяў і катаванняў унутры краіны, якія толькі ўзмацняюцца цягам ужо амаль што трох гадоў, блізкі да сталінскіх, а цынізм і бессаромнасць, з якімі яны ўчыняюцца да самых годных, сумленных і адважных асобаў, папросту беспрэцэдэнтны. Людзі, ратуючыся ад турмы, пакідаюць Беларусь дзясяткамі тысячаў – дакладнай статыстыкі на гэты конт не існуе, – а ўнутры краіны з боку ўладаў усё выяўней дэманструецца варожасць да беларускай культуры і беларускай мовы.

Найгалоўнейшыя задачы сёння для беларусаў у замежжы – не пагубляць адно аднога, захаваць і наладзіць сталыя кантакты, згуртавацца, шукаць як мага болей кропак паразумення і супрацоўніцтва паміж тымі, хто даўно па-за Беларуссю, і тымі, хто толькі зазнаў горыч чужыны, скіроўваць супольныя высілкі на падтрымку тых, хто застаецца ў Беларусі, паляпшаць стасункі і механізмы ўзаемадзеяння беларускай дыяспары з урадамі краінаў сталага пражывання і, вядома ж, захоўваць і развіваць нацыянальную культуру і ідэнтычнасць.

Мы верым, што Першы З'езд беларусаў Чэхіі якраз зробіцца адным з тых інструментаў, што істотна паўплывае на вырашэнне згаданых вышэй задач і зычым удзельнікам З'езда, каб гэтая гістарычная падзея прайшла натхнёна, аптымістычна, канструктыўна і запачаткавала трывалую традыцыю супольнага абмеркавання беларускіх праблемаў у Чэхіі!

Прадстаўнікі беларусаў Чэхіі ўваходзілі ў кіруючыя органы "Бацькаўшчына", былі дэлегатамі важных для нацыятворчых працэсаў З'ездах беларусаў свету. Спадзяемся, наша плённае супрацоўніцтва працягнецца і надалей.

Жыве Беларусь!

**Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"**

ца за тое, каб дзеці замежнікаў, якія легальна працуюць у Чэхіі, мелі правa на такі ж тып медыцынскага страхавання, што і чэшскія дзеці.

Шмат гаварылася пра развіццё культуры і вывучэнне мовы. Гэта была тэма Паўла Котава. Мы зноў вярнуліся да праекта беларускай нядзельнай школы. Таксама паўстала пытанне вывучэння мовы для дарослых. Бо некаторыя нашы землякі, што прыйшлі на з'езд, упершыню апынуліся ў такой вялікай грамадзе людзей, якія размаўляюць па-беларуску. Усе, хто прамаўляў на з'ездзе па-руску, вельмі саромеліся гэтага і выбачаліся. Жаданне камунікаваць па-беларуску вялікае, таму мы вырашалі, у якім фармаце мы можам задаволіць патрэбу ў засваенні беларускай мовы і для дзяцей, і для дарослых.

Таксама разважалі пра тое, як нам больш актыўна выкарыстоўваць статус нацыянальнай меншасці, які належыць беларусам амаль дзесяць гадоў. Прадстаўнікі беларускай дыяспары з Германіі, якія да нас прыехалі, вельмі нам з гэтай прычыны зайздросцілі, бо мы маем права карыстацца дзяржаўнай падтрымкай пры рэалізацыі праектаў, скіраваных на развіццё сваіх традыцый, мовы і культуры.

**– Што яшчэ дае гэты статус?**

– Беларусы могуць мець свайго прадстаўніка ў камітэтах па справах нацменшасцяў. Напрыклад, Крысціна Шыянок прадстаўляе беларускую меншасць пры пражскім магістраце, а я – ва Урадавай Радзе ў справах нацменшасцяў. Наша пазіцыя ўлічваецца ў прыняцці рашэнняў, звязаных з жыццём нацыянальных меншасцяў, мы таксама можам прапаноўваць заканадаўчыя ініцыятывы ў гэтай галіне.

Гэты статус дае магчымасць рэалізоўваць свае правы, гарантаваныя спецыяльным законам: права на аб'яднанне па нацыянальным прынцыпе (не тое што суполку, нават партыю можна стварыць), права на падтрымку і развіццё культуры, права на пашырэнне інфармацыі на сваёй мове, права на перадачу імя і прозвішча згодна нацыянальнай традыцыі. Гэта праблема тут насамрэч многіх хвалюе, бо калі людзі афармляюць чэшскія дакументы, узнікаюць праблемы ці неадпаданні ў напісанні імёнаў і прозвішчаў. Таму на з'ездзе ад цэху перакладчыкаў выступіла Вераніка Бяльковіч, якая растлумачыла, што трэба рабіць, каб у чэшскіх дакументах было імя ў той форме, якая перадае нацыянальную ідэнтычнасць.

**– Вы – прадстаўніца беларускай нацыянальнай меншасці ва Урадавай Радзе, якія пытанні вы там уздымаеце?**

– Так, мы маем магчымасць прапаноўваць заканадаўчыя ініцыятывы, напрыклад, адразу пасля пачатку вайны на Радзе я звярнула ўвагу на сітуацыю беларусаў, якія апынуліся фактычна ў ролі "двайных уцекачоў" і ўнесла прапанову, каб у рыхтаваным законе пра дачасную абарону такое права было гарантаванае і беларускім грамадзянам, якія знаходзяцца ва Украіне з прычыны пераследу ці пагрозы пераследу. Аднак працэс прыняцца законаў – гэта вельмі складаны механізм, бо ў яго ўлучаюцца не толькі чэшскія палітычныя і ўрадавыя структуры, але і так званыя еўрапейскія дырэктывы.

**– Якія самыя значныя культурніцкія ініцыятывы, інстытуцыі маюць беларусы ў Чэхіі?**

– Мы тут маем амаль усё: і сваю клубоўню, і сваю амбасаду культуры, і танцавальнае таварыства, а нядаўна быў закладзены Беларускі інстытут у Празе.

У 2020-м у Брне, як супольны чэшска-беларускі праект, з'явілася Амбасада незалежнай беларускай культуры – ці Анбелкульт. Амбасадарам стаў перакладчык Сяргей Сматрычэнка. Сфера дзейнасці Анбелкульту – прэзентацыя кніг і перакладаў, літаратурныя сустрэчы, творчыя рэзідэнцыі для беларускіх літаратараў. На жаль, апошнюю магчымасць анулявала вайна.

Працуе Беларуская клубоўня, яе заснавала і вядзе суполка "Пагоня". Пры клубоўні адкрытая бібліятэка імя Ларысы Геніюш. Праходзяць сустрэчы, дыскусіі. І здаецца мне, што вядомыя літаратары выступаюць цяпер тут часцей, чым у Беларусі. Апошнім госцем клубоўні быў малады беларускі аўтар Аляксандр Чарнуха, які напісаў раман-памфлет "Свінні".

Суполка "Скарына" – адна з першых суполак, заснаваная яшчэ ў 1997 годзе, – займаецца асветніцка-культурнымі праектамі, найчасцей звязанымі з імем Скарыны. У гэтым годзе было 505 гадоў з дня выхаду Скарынавай Біблії. Да гэтага дня спланавалі нефармальную акцыю-хэпенінг. Каля помніка Скарыну наладзілі абмен беларускімі кніжкамі. Запрасілі і выдавецтва "Вясна", якое выдае беларускія кнігі ў Празе.

**– Заўважна тое, што культурных ініцыятыў у Чэхіі сапраўды больш, чым у Беларусі…**

Бо многія з нас прыехалі ў Чэхію на год-два, а засталіся на ўсё жыццё. І з часам прыйшло разуменне, што Беларусь жыве там, дзе жывуць беларусы…

**– Наколькі ўшанаваная ў Празе памяць пра вядомую эмігрантку – паэтку Ларысу Геніюш?**

– Да стогадовага юбілею Ларысы Геніюш мы планавалі ўсталяваць дошку на доме, дзе яна жыла, па вуліцы Neřmanova, 7 у Празе. Быў праведзены міжнародны конкурс для беларускіх скульптараў. Журы выбрала праект Геніка Лойкі. Пакуль ішоў конкурс, адлівалася і дастаўляліся дошка, гаспадар дому нечакана адклікаў сваю згоду. Беларусы пачалі пісаць звароты, у тым ліку і да мэра Прагі, і да чэшскага прэзідэнта, але права прыватнай уласнасці тут непарушнае, таму гэтыя звароты ні да чога не прывялі. Аднак мы шукаем іншыя варыянты, сярод іх, напрыклад, усталяваць памятную дошку разам з інфармацыйным стэндам у Музеі памяці ХХ стагоддзя, які толькі ствараецца.

Мы ладзім экскурсіі, звязаныя з імем Ларысы Геніюш, не толькі ў Празе, але і ў горад Вімперк, дзе Геніюшы былі зняволеныя ў 1948 годзе, калі іх арыштавалі на запыт СССР. Мы выдалі пераклад яе мемуараў, кнігі "Споведзь", на чэшскую мову. Важна правесці рэабілітацыю Геніюш, бо яна – асоба, якая адважна супрацьстаяла таталітарызму, не мусіць несці сваё пакаранне вечна. Мы цяпер кансультуемся з чэшскімі органамі, ці можна перагледзець рашэнне пра скасаванне чэхаславацкага грамадзянства Ларысе і Яну Геніюшам. Разам з іх унукам, Міхасём, зрабілі пэўныя крокі і чакаем, што вырашаць адпаведныя чэшскія органы.

**– Мінула каля ста гадоў, як Рада БНР знайшла свой прытулак у Празе, іх мара пра дзяржаўнасць нібыта і збылася, аднак… зноў хваля эміграцыі. Ці можаце вы распавесці, што прынцыпова змянілася ў задачах і місіі чэшскай дыяспары за гэты час, за гэтыя амаль сто гадоў, а што засталося нязменным?**

– Дзякуй за такое добрае пытанне, бо яно дазваляе мне згадаць яшчэ адну ўнікальную ініцыятыву. Суполка "Скарына" ўзяла пад апеку магілы прэзідэнтаў БНР Пятра Крачэўскага і Васіля Захаркі. Так яна адгукнулася на грамадскі праект, прапанаваны адміністрацыяй Альшанскіх могілак па ўтрыманні магіл вядомых дзеячоў. Калі гаварыць пра пражскі перыяд эміграцыйнага ўраду БНР, то перш за ўсё ён імкнуўся перахоўваць традыцыю незалежнай беларускай дзяржаўнасці, лабіяваць інтарэсы Беларусі на міжнародным узроўні, пашыраць інфармацыю пра яе, ну і яшчэ хіба проста выжыць. Многае з гэтага дыяспара робіць і дагэтуль. На мой погляд, цяпер больш пільна паўстае задача хоць аднойчы рэалізаваць пераможнае вяртанне лідара ці лідаркі з выгнання ў Беларусь. Так, як гэта ўдавалася іншым народам. Каб нарэшце гэтая так доўга перахоўваемая ідэя стала базай новай Беларусі. Невыпадкова сябра Аб'яднанага пераходнага кабінета Павел Латушка свой выступ на з'ездзе пачаў словамі: "Я хачу дадому!"

Reform.by



На Першым з'ездзе беларусаў Чэхіі

**навіны**

# НОЧ РАССТРАЛЯНЫХ ПАЭТАЎ



Гданьск

29 кастрычніка ініцыятыва “Мова нанова з Варшавы” далучылася да акцыі “Ноч паэтаў” і зладзіла адмысловы жывы эфір “Вечар памяці”. Сярод гасцей анлайн-стрыму былі вядомыя паэткі Ганна Янкута, Наста Кудасава, цудоўная фатографка Вольга і каталіцкі святар Вячаслаў Барок. Госці жывога эфіру прыгадалі свае гісторыі “знаёмства” з Курапатамі, падзяліліся думкамі і перажываннямі. Падчас стрыму прагучалі вершы не толькі расстраляных паэтаў, але і нашых беларускіх сучаснікаў.

*

Беларусы Масквы далучыліся да беларусаў са ўсяго свету, каб ушанаваць памяць “Ночы расстралянай паэзіі”, а таксама каб падпісаць паштоўкі беларускім палітзняволеным імяніннікам.

*

Ноч (не)рассталяных паэтаў у Сан Францыска: пад гукі звана зачыталі імёны забітых прадстаўнікоў інтэлігенцыі 29 кастрычніка 1937. А таксама зачыталі імёны забітых пратэстоўцаў на Беларусі і нашых ваяроў ва Украіне. На бэкграўндзе відэа з рэпрэсаванымі беларускімі пісьмен-



Вільня





Масква


Брэмен


Рыга

нікамі, у зале на крэслах партрэты са знічамі, што стварала атмасферу прысутнасці і еднасці. Гучалі вершы Дудара, Харыка, Таўбіна і іншых (не)расстраляных паэтаў, тых, хто цяпер за кратамі, – Аляксандрава ды Знака.

*

Ноч Паэтаў у лонданскай Скарынаўцы: прысутныя пазнаёміліся з трыма паэтамі – праз іх жыццёвыя гісторыі, вершы і песні на іх вершы:“Спявай мне, дзяўчынка” і “Бунтар” Міхася Чарота, “Асыпае чэрвень белы сад” Алеся Дудара і верш “Гультай” Мойшэ Кульбака.

*

Маштабная “Ноч паэтаў”, арганізаваная беларускім культурным таварыствам “Хатка”, прайшла ў Гданьску ў Аблацкім цэнтры адукацыі і культуры, што пры касцёле святога Юзафа. Выказаць пашану расстраляным літаратарам прыйшлі больш за 150 беларусаў. Постаці расстраляных літаратараў паўставалі перад гледачамі ва ўвесь рост і стваралі эфект прысутнасці паэтаў. На ўваходзе ў залу беларусаў сустракаў айцец Марцін Шафарс. На пачатку імпрэзы ён выступіў з вітальным словам. Кіраўніца Беларускага Культурнага Таварыства “Хатка” Лена Глагоўская заўважыла, што знішчэнне беларускай інтэлігенцыі пачалося нашмат раней, і першым расстраляным беларускім літаратарам быў таленавіты пісьменнік Фабіян Шантыр, забіты ў 1920 годзе. Затым была музычна-паэтычная частка сустрэчы, на чале якой быў адзін з аўтараў кнігі “НЕрасстраляныя” Васіль Дранько-Майсюк. Імпрэза была аздобленая музыкай беларускага кампазітара Анатоля Багатырова ў выкананні беларускай піяністкі спадарыні Алены Кур’яновіч. На сцэне разам са спадаром Васілём беларускія акцёркі Алена Баярава, Ірына Купчанка і Таццяна Кулеш чыталі вершы.

*

У Рызе тых, хто быў расстраляны 85 гадоў таму, згадвалі каля Мемарыяла ахвярам рэпрэсій “Дотык да гісторыі”. Гучалі вершы і песні (не)расстраляных паэтаў на беларускай, рускай, украінскай, латышскай мовах. У мерапрыемстве акрамя беларусаў прынялі ўдзел дырэктар Музея акупацыі Латвіі, святар УГКЦ,


Мінесота


Сан-Францыска

латышская і беларуская паэткі і перакладчыцы, прадстаўнікі “Суполкі” беларусаў у Латвіі і Латвійскага таварыства беларускай культуры “Світанак”. У падтрымку беларусаў і ў знак ушанавання загінуўшых гучаў прым’ерны трэк ад латышскага хора Frachori латышскай патрыятычнай песні “Saule, Pērkons, Daugava” ў перакладзе на беларускую мову.

*

У Цэнтральным парку Батумі ўвечары 29 кастрычніка сабралася каля сотні чалавек. Удзел у мерапрыемстве ўзялі не толькі беларусы, але і грузінскія літаратары. Акцыя памяці пачалася з запальвання свечак, выканання гімна “Магуты Божа” і хвіліны маўчання. Адкрыў “Ноч расстраляных паэтаў” Аляксей Балашоў, выканаўчы дырэктар ГА “Беларуская дыяспара ў Аджарыі”. Затым вядучая імпрэзы, пісьменніца Наталка Харытанюк запрасіла да мікрафона грузінскіх літаратараў: Генры Далідзэ, які прачытаў верш на грузінскай мове расстралянага ў 1937 годзе паэта Тыцыяна Табідзэ “Рыа-Рыа”, і грузінскіх літаратараў Тарыэла Цхварадзэ, Сурхана Цулукідзэ, а таксама паэтку Ганну Сурманідзэ.

*

Акцыя памяці расстраляных паэтаў 29 кастрычніка адбылася таксама і ў Тбілісі. Тут яна праходзіла ў Доме пісьменнікаў Грузіі ў фармаце літаратурнага вечара. Падчас вечарыны вершы ахвяраў ночы расстраляных паэтаў чыталі акцёр Аляксандр Ждановіч (Маляваныч), музыкі Андрусь Такіданг і Рыгор Лайкоў, рэжысёр Андрэй Бібікаў і іншыя вядомыя беларусы. У якасці вядучай імпрэзы выступіла рэжысёрка Наталля Бібікава. Вядомая настаўніца і літаратуразнаўца Ганна Севярынец прачытала для ўдзельнікаў імпрэзы анлайн-лецыю “Непаслухмяныя дзеці Кастрычніка”.

*

Беларусы Вільні зладзілі імпрэзу-ўшанаванне памяці беларускіх літаратараў. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел музыкі Аляксандр Памідораў, Юры Несцярэнка, Ганна Валынец, гурт “Беларускі цуд”, паэткі Сабіна Брыло, Ванда Марціньш, Дар’я Роскач. Выступілі таксама старшыня Саюза літоўскіх пісьменнікаў Бірутэ Янушкайтэ і іншыя ганаровыя госці.

# ВЫДАВЕЦ АНДРЭЙ ЯНУШКЕВІЧ АДНАВІЎ СВАЮ ПРАЦУ Ў ВАРШАВЕ

Пра гэта ён паведаміў на сваёй старонцы.

“Нізкі паклон усім, з кім давялося працаваць па выдавецкіх праектах, чые тэксты чыталіся з захапленнем, і з кім яшчэ не працавалася, але я спадзяюся, давядзецца супрацоўнічаць. Вы робіце сапраўды важную працу, шчырая і шырокая ўдзячнасць чытачоў – найлепшы сведка ў гэтым” – піша выдавец.

Да выдання на беларускай мове рыхтуюцца: Дж. К. Роўлінг “Гары Потэр і Келіх агню” (перакладчыца Алена Пятровіч), Дж. Р. Р. Толкін “Валадар Пярсцёнкаў. Брацтва Пярсцёнка” (перакладчык Ігар Кулікоў), Кормак Макарці “Дарога” (перакладчык Сяржк Мядзведзеў), Шчэпан Твардах “Кароль” (перакладчык Мікола Рамаёўскі), Салі Руні “Размовы з сябрамі” (перакладчыца Ірына Грэбень), Фрэнсіс Скот Фіцджэральд “Вялікі Гэтсбі” (перакладчык Сяргей Матырка), Эрнэст Хэмінгуэй “І ўзыходзіць сонца” (перакладчык Юрка Гаўрук), Эрых Марыя Рэмарк “Чорны абеліск” (перакладчыца Іна Хоміч).

“Цяжка сказаць, калі кнігі выйдуць. Знаходзячыся ў Варшаве, сутыкаешся з новымі рэаліямі і трапляеш у "рэсурсную пятлю". Пакуль праца вядзецца за камп'утарам, можна абысціся мінімальным наборам сродкаў. Аднак пасля друку ўсё мяняецца. Дзе захоўваць экзэмпляры, як развозіць і пакаваць іх для рассылкі, тая ж прамоцыя – праблемы зусім іншага кшталту. І тут упіраешся ў матэрыяльныя немагчымасці.

Такія вось несвяточныя роздумы. Калі ў каго ёсць якія ідэі і рашэнні, дзяліцеся, калі ласка. Вельмі хочацца, каб кнігі з’явіліся на свет як мага хутчэй. Часу ў нас няшмат” – падсумоўвае Янушкевіч.

budzma.org

адукацыя

# НА ПЕРШЫ КУРС КАФЕДРЫ БЕЛАРУСІСТЫКІ ВАРШАЎСКАГА ЎНІВЕРСІТЭТА ПАСТУПІЛА 10 БЕЛАРУСАЎ

Кафедра беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта – адзіная па-за межамі нашай краіны, дзе можна атрымаць вышэйшую адукацыю па спецыяльнасці "беларуская філалогія". Ад нядаўняга часу ў дыпломе еўрапейскага ўзору з'явіўся допіс – з англійскай мовай. У якасці факультатыўнай маладыя людзі могуць вывучаць іспанскую і расійскую. Апошняй, праўда, цікавяцца пераважна студэнты з Польшчы, якія раней у асноўным і вучыліся на кафедры. Трэнд апошніх гадоў: беларусы паступаюць усё часцей.

Хто абірае нішавы кірунак і якія плюсы студэнцтва ў найлепшым польскім універсітэце? Пра гэта – у нашым матэрыяле.

– Ведаю польскую, англійскую, расійскую, нямецкую, пачынаю вучыць нарвежскую. Ну і беларускую цяпер буду.

Праз некалькі хвілін высвятляецца, што акрамя моў, Лідзія вывучае яшчэ і філасофію. У чаканні арганізацыйнага спаткання думае цяпер, як сумясціць два факультэты.

– Адкуль я сама? З Варшавы. Але мая бабуля была з Ліды. Мяне таму так і назвалі – Лідзія.

Першай сустрэчы з аднагрупнікамі чакае і Куба – таксама з Варшавы. Малады чалавек кажа, што паступіць ва ўніверсітэт было даволі проста. Зацікавіла не толькі беларуская мова: "У дыпломе будзе напісана, што я вывучаў і англійскую. Гэта добры бонус".

"Як вас шмат. Тут і на падаконні яшчэ ёсць месца. Праходзьце, праходзьце. Калі ласка", – нарэшце першакурснікаў запрашаюць на ўрачыстае спатканне. Першае знаёмства – з загадчыкам кафедры. Прафесар Радаслаў Калета натхняе на цікавае студэнцкае падарожжа:

– Наша кафедра мае багатую гісторыю, якая пачалася ў 1956 годзе. Тут працавалі выбітныя даследчыкі – Аляксандр і Ніна Баршчэўскія, Альжбета Смулкова, якая была першай амбасадаркай Польшчы ў Беларусі, іншыя таленавітыя людзі. Будзем натхняцца традыцыяй і з цікавасцю глядзець у будучыню! Мы тут для таго, каб вас падтрымліваць. Калі будзеце мець жаданне паразмаўляць – з радасцю чакаем. Мы заўсёды адкрытыя да вашых пытанняў. Першыя 2–3 месяцы пойдуць на тое, каб арганізавацца і зразумець новую сістэму.

### "Такога яшчэ не было"

Гэты акадэмічны год беларусісты распачынаюць на Добрай, 55 – у сучасным будынку, які нават трапіў у намінацыю сусветнага конкурсу World Architecture Festival 2022. Архітэктура корпуса факультэта прыкладной лінгвістыкі заснаваная на экалагічных падыходах. Да прыкладу, у будынку ёсць фотаэлектрычныя панелі, а адмысловая сістэма дазволіць паліваць расліны дажджавой вадой. Усе ўмовы не толькі для навукі, а і адпачынку: утульныя зоны рэлаксу ёсць на кожным паверсе і нават на даху, з якога адкрываецца шыкоўны від на Каралеўскі замак, набярэжную Віслы і BUW – Бібліятэку Варшаўскага Універсітэта.

"Мы спантанна пераехалі сюды ў мінулым годзе. Але сёлета ўжо свядома пачынаем першы акадэмічны год са спадзяваннямі на тое, што ён будзе цікавы, паспяховы і з добрымі вынікамі", –


Вольга Трацяк

кажа кандыдат філалагічных навук Вольга Трацяк. Сёлета выкладчыца кафедры была на чале прыёмнай камісіі факультэта.

"У гэтым годзе мы прынялі 35 асоб на першую ступень. Сярод гэтых людзей ажно 10 беларусаў! Такога яшчэ не было. Для нас гэта фенаменальная, вельмі неардынарная з'ява, якая будзе несці новыя выклікі. 10 чалавек – гэта ўжо асобная група беларусаў, да якой трэба выпрацоўваць іншую методыку, бо мы былі заўсёды скіраваныя на студэнтаў з Польшчы. Найчасцей гэта людзі, якія не ведаюць беларускай мовы, а цяпер мы будзем інакш прадумваць нашу праграму. Цешыць тое, што сярод гэтых беларусаў вельмі шмат асоб свядомых, якія асэнсавана абралі наш кірунак. Мне здаецца, што гэта будзе адзін з найцікавейшых досведаў нашай кафедры", – адзначае Вольга Трацяк.

### "Беларусізуем увесь свет!"

Да 2020 года Кацярына Шульган вучылася ў Беларускім эканамічным універсітэце. Пасля вядомых падзей пераехала ў Кіеў і паступіла на завочнае ў ЕГУ. Цяпер курс міжнароднай палітыкі і эканомікі будзе спалучаць з беларускай філалогіяй:

– Я б хацела дасканала ведаць беларускую. Калі ты звычайны юзэр, то гэтага недастаткова, каб прасоўваць мову. Мне здаецца, што даволі мала людзей, дасведчаных у гэтай тэме. Мне хацелася б, каб беларуская мова распаўсюджвалася, і дзеля гэтага яе трэба добра ведаць.

– А што яшчэ трэба рабіць для распаўсюду, як думаеш?

– Патрэбна, каб у розных сацсетках былі пераклады на беларускую, трэба пашыраць беларускую мову ў навуковых працах. У ЕГУ я звычайна пішу эсэ па-беларуску. Увогуле, я спадзяюся, што калісьці – напэўна, акурат калі я скончу ўніверсітэт – у нашай краіне зменіцца ўлада і будзе беларусізацыя. Праз гэта будуць патрэбныя людзі, якія маюць дыплом, маюць веды. Кампаніі, напэўна, таксама будуць зацікаўлены ў тым, каб ведаць беларускую мову. Беларусізуем увесь свет!

**– Якія першыя ўражанні ад універсітэта?**

– Пакуль што складана, таму што трэба разбірацца ў электроннай сістэме. Але мне пашанцавала, што я знайшла людзей, якія змаглі мне даць парады. Неўзабаве ўсё будзе класна і, спадзяюся, хопіць часу на ўсю маю актывісцкую дзейнасць і два ўніверсітэты.

### "Выкладчыкі ніколі не кажуць у присутнасці групы твой бал за экзамен"

"Чалавеку з беларускім бэкграўндам сапраўды складана разабрацца ў гэтай сістэме", – дзеліцца досведам студэнтка 5 курса. Таксама, дарэчы, унікальнага: упершыню за ўсю гісторыю кафедры летась на магістратуру прыйшлі толькі беларусы.

– Усё студэнцкае жыццё завязанае на сістэму USOS. На тое, каб зразумець, як яна працуе, трэба некалькі тыдняў, а то і месяцаў. Праз яе рэгіструешся на прадметы, там ёсць расклад заняткаў, твае адзнакі. Для мяне было шокам, што выкладчыкі ніколі не кажуць у прысутнасці групы твой бал за экзамен або залік. Больш за тое, вусныя экзамены здаюцца пераважна тэт-а-тэт. Псіхалагічна гэта вельмі камфортная сітуацыя.

**– А як з польскай мовай? Спраўляешся?**

– Спачатку было страшнавата, у мяне быў даволі сціплы ўзровень. Але неўзабаве я адкрыла, што вакол нашмат больш людзей, якія гатовыя цябе падтрымаць і табе дапамагчы. Для іншаземцаў ва ўніверсітэце ёсць магчымасць хадзіць на курсы польскай мовы ў інстытут Polonicum. Гэта вельмі крутая ўстанова, дзе працуюць неверагодныя выкладчыкі. У некаторых папулярныя моўныя каналы на Youtube. Я запісалася на агульны курс польскай мовы і на курс "Чытаем па-польску". У наступным семестры вазьму сабе прадмет "Пішам па-польску" і, калі атрымаецца спалучыць з асноўным раскладам, курс польскага кіно.

Дзяўчына прызнаецца, што досвед навучання ў еўрапейскім універсітэце – адзін з самых цікавых у яе жыцці:

– Кожны семестр ты абавязаны ўзяць прадмет з іншага факультэта, так званы "огун". Выбіраеш на свой густ, ад гісторыі квантавай механікі ці міжнародных адносін да хору, народных танцаў і адукацыйных шпацыраў па Варшаве. Нават бачыла прадмет паводле праграмы дванаццаці крокаў ананімных алкаголікаў. Заняткі праходзілі ў медыцынскай установе. Дарэчы, напрыканцы кожнага семестра мы запаўняем анкеты і выстаўляем свае балы кожнаму выкладчыку. Калі, напрыклад, водгукі сістэматычна адмоўныя, для кіраўніцтва гэта нагода прыняць меры. Вельмі адрозніваюцца стасункі выкладчыкаў са студэнтамі. Больш свабодныя. Цябе вельмі паважаюць і праз гэта ты таксама вучышся паважаць, разумець, прымаць.

**– А што можаш сказаць пра вучобу непасрэдна на кафедры?**

– У нас вельмі цікавыя прадметы. Па беларускай літаратуры летась мы праходзілі Алексіевіч, Бахарэвіча, Марціновіча, Клінава, Някляева, Гло-



Кацярына Шульган

буса. Беларускую мову вывучаем з розных перспектыў – у СМІ, палітыцы, бізнесе. Вельмі карысныя заняткі па перакладах! Дарэчы. З нашай спецыяльнасцю можна працаваць прысяжным перакладчыкам. Трэба толькі здаць дадатковы экзамен, ну і атрымаць польскае грамадзянства. Мне падабаецца, што на кафедры чытаюць лекцыі і носьбіты мовы, і польскія выкладчыкі. Яны вельмі абазнаныя ў нашай сітуацыі.

### "Беларусістыка – гэта для ўсіх"

У дактарантуру ўніверсітэта сёлета паступілі два выпускнікі беларусістыкі. Яны будуць пісаць дысертацыі па мове і літаратуры. У чэрвені на кафедры прайшла міжнародня канферэнцыя. У Варшаву прыехалі беларусісты з розных краін – Беларусі, Літвы, Польшчы, Славакіі, Германіі. З дакладам выступіў знакаміты англійскі даследчык Арнольд Макмілін. Студэнтам мінулы навучальны год запомніўся яшчэ і навуковымі экспедыцыямі на Падляшша. Там яны збіралі дыялекты этнічных беларусаў. Сёлета кіраўніцтва кафедры прапанавала студэнцкаму навуковаму колу самастойна зладзіць падобную вандроўку – універсітэт падтрымлівае такія ініцыятывы і цалкам пакрывае на іх выдаткі. Наперадзе вялікая і цікавая дарога і новы акадэмічны сезон.

На занятках беларусісты будуць вывучаць не толькі беларускую мову і літаратуру. Глотадыдактыка, рыторыка, гісторыя Беларусі і беларускі фальклор, камунікацыйныя тэхнікі. Адзін з самых любімых прадметаў студэнтаў – канфрантатыўная, або параўнаўчая граматыка. Маладыя людзі актыўна запісваюцца таксама на іспанскую мову. Яе выкладае кандыдат філалагічных навук Анхела Эспіноса Руіс.

– Летась мы паспрабавалі і, падаецца, даволі паспяхова. У гэтым годзе набіраю групу ўжо на ўзровень А2.

– Як адчуваеце сябе ў ролі выкладчыцы?

– Гэта вельмі пазітыўны для мяне досвед. Кожны дзень на кафедры – гэта скарб, гэта радасць. Я з ахвотай сустракаюся са студэнтамі. У мяне такое адчуванне, што вучуся ў іх болей, чым яны ў мяне. На занятках заўсёды імкнуся будаваць дыялог. Часта на літаратуру людзі прыходзяць са страхам, што яны дадуць няправільны адказ. Я ім заўсёды кажу, што памыліцца немагчыма, таму што літаратура – гэта таксама дыялог. Паміж пісьменнікамі і чытачамі, навукоўцамі. Калі студэнт можа лагічна абгрунтаваць свой адказ, я яго заўсёды падтрымаю.


Анхела Эспіноса Руіс

**– А яшчэ натхніце: як асоба, якая нарадзілася ў Іспаніі і не проста вывучыла беларускую мову, а і стала пісаць на ёй вершы!**

– Спадзяюся. Прынамсі, я магу ім паказаць, што калі яны хочуць прысвяціць жыццё беларускай мове – гэта магчыма. Не трэба быць беларусам, каб валодаць беларускай мовай, каб чытаць і пісаць літаратуру. Беларусістыка – гэта для ўсіх.

**Паліна Часноўская, budzma.org**

# ТЭЛЕГРАМ-БОТ ЗНАХОДЗІЦЬ БЕЛАРУСКІЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ ПА ЎСІМ СВЕЦЕ. ДАЛУЧАЙЦЕСЯ!

"Будзьма беларусамі" запускае тэлеграм-бот "Будзьма разам!", які дапаможа падпісчыкам незалежна ад месца пражывання даведацца пра цікавыя беларускія мерапрыемствы ў сваім горадзе, краіне і нават па ўсім свеце!

Ад 2020 года Беларусь зазнала масавую хвалю эміграцыі. Безліч нашых суродзічаў на ўласным досведзе зразумелі, як цяжка на новым месцы ўліцца ў мясцовае жыццё, адшукаць сяброў ды паплечнікаў, не згубіць сувязяў з беларускім асяродкам. З нашым ботам больш няма патрэбы па крупінках у розных сацсетках шукаць інфармацыю пра беларускія падзеі – трэба проста выбраць у боце новы горад і падпісацца на абнаўленні. Мы максімальна акумулюем інфармацыю, а вы будзеце атрымліваць пуш-паведамленні і зможаце наведаць беларускія мерапрыемствы, на якіх пазнаёміцеся з суайчыннікамі, усталюеце кантакты, знойдзеце аднадумцаў.

Але наш бот не толькі для тых, хто з'ехаў, ён і для беларусаў на Радзіме. Бот не толькі дасць вам разуменне, колькі ўсяго беларусы робяць па розных краінах, але і своечасова нагадае пра цікавыя падзеі ў розных гарадах Беларусі і дапаможа адчуваць повязь з іншымі, калі здаецца, што ўсе з'ехалі і нічога не адбываецца.



Падпісаўшыся, вы будзеце атрымліваць паведамленні пра беларускія падзеі самага рознага кшталту: культурніцкія, асветніцкія, праваабарончыя, антываенныя і інш. – у сваім горадзе, рэгіёне або па ўсёй краіне. Канцэрты і выставы, спектаклі і фестывалі, вечарыны і прэзентацыі, лекцыі і семінары, акцыі салідарнасці – усё, што ладзяць беларусы ў розных краінах свету, будзе акумуляваць наш бот.

Карыстацца ім вельмі проста: выбірайце той ці іншы горад або ўсю краіну, падпісвайцеся асобна на ўсе анлайн-мерапрыемствы ці выбірайце варыянт all inclusive – усе беларускія падзеі свету (у тым ліку і анлайн-мерапрыемствы). А пасля – сачыце за беларускім дзвіжам і далучайцеся!

На сёння ў боце знойдзеце абвесткі пра падзеі ў Беларусі, Польшчы, Літве, Латвіі, Германіі, Грузіі, Вялікабрытаніі, Чэхіі, ЗША. З вашай дапамогай мы спадзяемся пашырыць бот, каб ён стаў карысным як мага большай колькасці беларусаў/ак і ўключаў як мага болей краін і гарадоў.

Калі вы арганізатар нейкага мерапрыемства альбо ведаеце, што ў вашым горадзе яно будзе, а мы пра яго яшчэ не напісалі, дасылайце ў бот свае абвесткі, а бот падзеліцца імі з усімі карыстальнікамі. Калі ж вашага горада не хапае ў нашым боце – паведаміце, і мы дададзім. Гэта можна рабіць проста праз радок паведамлення!

Наша каманда працавала над ботам доўгі час, але ён, як і любы новы прадукт, можа мець памылкі і багі. Будзем удзячныя за любыя канструктыўныя заўвагі і прапановы. Гэта дапаможа нам зрабіць бот больш дасканалым і зручным для карыстальнікаў. Дарэчы, стварыла бот "Будзьма разам!" распрацоўшчыца чат-ботаў Кацярына Бусел, за што каманда "Будзьма Беларусамі" ёй шчыра дзякуе.

Далучайцеся і дзяліцеся спасылкай на бот з сябрамі ўжо сёння!

Будзьма беларусамі ў любой кропцы свету і будзьма разам!

навіны

# НА МОГІЛКАХ РОСЫ АДНАВІЛІ ПОМНІК ФРАНЦІШКУ АЛЯХНОВІЧУ

Пра гэта паведаміў у сваім фэйсбуку прадстаўнік беларускай дыяспары ў Вільні Кірыл Атаманчык.

"Сёння ноч расстраляных паэтаў. Сумная і трагічная дата, але сёння я шчаслівы, бо мы аднавілі помнік забітаму ў 1944 варожай куляй славутаму беларусу – беларускаму драматургу, пісьменніку Францішку Аляхновічу! Мы паспелі зрабіць гэта да Дзядоў. Цяпер, кожны можа прыйсці на віленскія Росы і запаліць зніч у гонар нашага славутага адраджэнца!", – напісаў Атаманчык.

budzma.org




in memoriam

# У ЛЕПШЫ СВЕТ ПАЙШЛА АЛЕНА (ЛЁЛЯ) МІХАЛЮК

16 кастрычніка ў лепшы свет пайшла спадарыня Алена (Лёля) Міхалюк (15.05.1930–16.10.2022), славутая дзячка беларускай дыяспары, сябра Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі з 1947 году і старшыня гэтай арганізацыі ў 1997–2013 гадах, сябра Рады БНР і Англа-Беларускага таварыства, ганаровы сябра Рады "Бацькаўшчыны".

Жыццёвы шлях спадарыні Лёлі Міхалюк быў гэтак шчыльна знітаваны з лёсам беларускай грамады ў Вялікабрытаніі, ад самых вытокаў і першых выдавецкіх спробаў сябраў ЗБВБ да набыцця супольнай нерухомасці і арганізацыі працы беларускай школы-інтэрнату імя Св. Кірылы Тураўскага, што айцец Аляксандр Надсан называў яе "добрай маці для ўсіх брытанскіх беларусаў". Нястомнасць і мудрасць спадарыні Лёлі самым істотным чынам паўплывалі на тое, што дыяспара Вялікабрытаніі зрабілася адной з наймацнейшых.

Сыход Алены Міхалюк – вялікая страта для Беларусі.



Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына" шчыра смуткуе і выказвае спачуванні родным і блізкім спадарыні Лёлі, а таксама ўсім, каму пашчасціла натхняцца ейным ахвярным служэннем беларушчыне.

Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"

вайна

# ЯК МОЖНА ДАПАМАГЧЫ УКРАІНЕ

**1. Нацбанк Украіны адкрыў спецыяльны дабрачынны рахунак дапамогі краіне**



**2. "Беларускі моладзевы хаб" збірае гуманітарку, забірае і размяшчае людзей**



**3. Partyzanka Freeshop збірае гуманітарную дапамогу**



## Беларускі каляндар памятных дат на лістапад 2022 года

**1 лістапада**
- 110 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Янка Золак, паэт. Памёр у 2000-м.

**3 лістапада**
- 320 гадоў таму, у 1702-м, нарадзіўся Караль Карыцкі, пісьменнік. Памёр у 1789-м.
- 140 гадоў таму, у 1882-м, нарадзіўся Якуб Колас, адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Памёр у 1956-м.

**4 лістапада**
- 135 гадоў таму, у 1887-м, нарадзіўся Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны), пісьменнік і дзяржаўны дзеяч. Памёр у 1937-м.
- 85 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Аляксандр Вальковіч, міністр фінансаў БНР.
- 85 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Іван Гаўрыс, мастак.
- 85 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Пятро Даркевіч, гісторык.
- 85 гадоў таму, у 1937-м, Хрыстафор Даркевіч, мастак.

**5 лістапада**
- 45 гадоў таму, у 1977-м, нарадзіўся Андрэй Хацяноўскі, скульптар.

**6 лістапада**
- 280 гадоў таму, у 1742-м, нарадзіўся Фабіян Саковіч, паэт.
- 160 гадоў таму, у 1862-м, памёр Віктар Каліноўскі, археограф.

**7 лістапада**
- 125 гадоў таму, у 1897-м, нарадзіўся Міхась Каршук, краязнавец.

**10 лістапада**
- 80 гадоў таму, у 1942-м, памёр Сымон Баранавых, празаік.

**13 лістапада**
- 80 гадоў таму, у 1942-м, памёр Уладзіслаў Талочка, рэлігійны дзеяч, гісторык.

**14 лістапада**
- 210 гадоў таму, у 1812-м, нарадзіўся Паўлюк Багрым, паэт. Памёр у 1891-м.

**16 лістапада**
- 65 гадоў таму, у 1957-м, памёр Янка Чарапук, дзеяч эміграцыі ў ЗША.
- 40 гадоў таму, у 1982-м, памёр Андрэй Макаёнак, драматург.

**18 лістапада**
- 120 гадоў таму, у 1902-м, нарадзіўся Міхась Машара, паэт. Памёр у 1976-м.

**19 лістапада**
- 15 гадоў таму, у 2007-м, памёр Язэп Сажыч, у 1982–1997 гг. старшыня Рады БНР.

**26 лістапада**
- 190 гадоў таму, у 1837-м, нарадзіўся Міхаіл Эльвіра Андрыёлі, мастак. Памёр у 1893-м.
- 115 гадоў таму, у 1907-м, нарадзіўся Міхась Скрыпка, пісьменнік. Памёр у 1991-м.

**27 лістапада**
- 155 гадоў таму, у 1867-м, нарадзіўся Іван Жалтоўскі, дойлід. Памёр у 1959-м.
- 75 гадоў таму, у 1947-м, нарадзіўся Эдуард Белагураў, мастак. Памёр у 1988-м.

**28 лістапада**
- 10 гадоў таму, у 2012-м, памёр Алег Сурскі, мастак, мастацтвазнаўца.

**Беларусы ў свеце**
№ 9 (244), верасень 2022
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацeнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com